# Голас Радзімы

№ 26 (2168)
28 чэрвеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Яны ляцелі да нас праз акіян на імклівым «Боінгу» некалькі доўгіх гадзін. А, відаць, імкнуліся трапіць на Беларусь, пабачыць радзіму сваіх продкаў усё сваё свядомае жыццё. Гэтыя маладыя людзі нарадзіліся і выраслі ў Злучаных Штатах Амерыкі, большасць з іх маюць ужо там сваю справу, але ніколі не забываюцца, хто яны і адкуль родам, свята шануючы традыцыі і звычаі свайго народа, яго песні і танцы, слаўную гісторыю Беларусі.

І родная, доўгачаканая зямля гасцінна сустрэла сваіх сыноў і дачок — танцавальны калектыў «Васілёк» з ЗША пад кіраўніцтвам прафесара з Нью-Йорка Алы Орса-Рамана. Сустракаць іх у аэрапорт прыехалі не толькі супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма (яно, дарэчы, і запрасіла «Васілёк» у госці), але і сваякі «амерыканцаў», моладзь сталіцы з БНФ.

Незабыўныя тыя першыя хвіліны... Яшчэ не верачы цалкам, што знаходзяцца ўжо ў Беларусі, госці неяк нерашуча сыходзілі з прыступак аўтобуса, шукаючы ў натоўпе знаёмыя твары. І раптам нехта закрычаў: «Ала! Вы — дома!» Гэты крык парушыў напружанне моманту і разбудзіў усе эмоцыі. Да прыезджых працягнуліся дзесяткі сяброўскіх рук з кветкамі. І людзі не змаглі ўтрымаць слёзы: смяяліся і плакалі адначасова, абдымаліся з усімі, хто быў побач. А неўзабаве і песню заспявалі разам. Тут, каля аэрапорта, 20 чэрвеня нашых землякоў з Амерыкі разам з тымі, хто іх сустракаў, і сфатаграфаваў фотакарэспандэнт «Голасу Радзімы» Святаслаў КРЫЦКІ.

Ужо адбыліся першыя выступленні «Васілька» на сталічнай сцэне, сустрэчы ў калгасах «Нёман» і «Радзіма Якуба Коласа» Стаўбцоўскага раёна. Наперадзе канцэрты ў Полацку і Гродне, цікавыя паездкі па Беларусі, сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, мастакамі. Нашым землякам вельмі хочацца даведацца, як і чым жыве Беларусь, якія праблемы найперш хвалююць яе народ.

Пра знаходжанне «Васілька» ў Беларусі вы даведаецеся з наступных нумароў газеты.

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

## ВЫСТУПІЎ ПРАДСТАЎНІК БССР

«Навакольнае асяроддзе і свет працы»—гэтая тэма знаходзіцца ў цэнтры ўвагі Генеральнай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы, што праходзіць у Жэневе. Выступаючы ў агульнай дыскусіі, старшыня Дзяржкампрацы БССР А. Фаміч падкрэсліў, што разбурэнне навакольнага асяроддзя прывяло сёння да пагрозы самому існаванню жыцця на Зямлі.

Старшыня Дзяржкампрацы БССР адзначыў, што эканамічнае развіццё павінна быць падпарадкавана задавальненню патрэб чалавека і гарантаваць сацыяльную справядлівасць для ўсіх слаёў насельніцтва. У Беларускай ССР пастаянна ажыццяўляюцца меры для дасягнення гэтых мэт. Аднак у апошнія чатыры гады рэалізацыя падобных праграм ускладнілася з-за неабходнасці пераадолення вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Для вырашэння ўсяго комплексу ўзнікшых праблем, беспрэцэдэнтных па сваіх маштабах, неабходны і садзеянне звонку, і дапамога, падкрэсліў прадстаўнік БССР. Яны могуць быць звязаны таксама са стварэннем сумесных праграм у галіне аховы здароўя людзей.

У гэтых умовах, побач з уласнымі намаганнямі і садзейнічаннем грамадскіх органаў, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Беларускай ССР звярнуліся да парламентаў, урадаў, міжнародных арганізацый, суайчыннікаў, да ўсіх людзей добрай волі з заклікам аказаць рэспубліцы ўсялякае магчымае садзеянне і дапамогу ў намаганнях па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай аварыі.

Мы ўдзячныя ўсім, сказаў А. Фаміч, у каго гэты зварот выклікаў разуменне.

АХОВА ЗДАРОЎЯ



Амаль паўтары тысячы чалавек прыняў летась но санаторый-прафілакторый гродзенскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно». Хімічная вытворчасць, як вядома, небясшкодная для здароўя людзей, таму назіранне за ўзроўнем прафесіянальнага захворвання вядзецца не толькі ў цэхавых медпунктах, але і ў санаторыі-прафілакторыі. Тут створаны ўсе ўмовы для таго, каб работнікі прадпрыемства маглі, што называецца, без адрыву ад вытворчасці аднавіць здароўе, прайсці курс прафілактычнага лячэння, проста адпачыць. Утульныя пакоі і холы, стаматалагічны і працэдурныя кабінеты, аснашчаныя новым сучасным абсталяваннем, рацыянальнае харчаванне, клопат і ўвага да сваіх пацыентаў з боку абслуговага персаналу — усё гэта зрабіла прафілакторый любімым месцам адпачынку гродзенскіх хімікаў. У летнія месяцы тут арганізуюцца і сямейныя заезды.
24-дзённае знаходжанне ў прафілакторыі каштуе рабочым і служачым аб'яднання ўсяго 16 рублёў. Астатняе даплачвае прафком.
На будаўніцтва санаторыя-прафілакторыя затрачаны немалыя сродкі. Але, як лічаць у аб'яднанні, укладзены яны ў прыбытковую справу, таму што ад стану здароўя чалавека ў многім залежаць і вытворчыя паказчыкі.

ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР

## ПАРАДНІЛІСЯ ГАРАДЫ

Сваю «цаглінку» ў будаўніцтва агульнаеўрапейскага дома паклалі старажытны Полацк і заходнегерманскі Фрыдрыхсхафен. У горадзе над Дзвіной паставілі свае подпісы пад доўгатэрміновым дагаворам аб супрацоўніцтве обер-бургамістр Бернд Відман і старшыня гарсавета Уладзімір Пелагейка.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## ЗНАЁМЦЕСЯ — «ЯЛІНА»

Аграпрамысловы камбінат «Заходні Буг», што ў Брэсцкім раёне, кааператыў «Крынічка» і італьянскія фірмы «БВ» і «Коджыс трайдынг» стварылі сумеснае прадпрыемства «Яліна».

Яно будзе выпускаць харчовую прадукцыю з палепшанымі смакавымі і іншымі спажывецкімі якасцямі. Будзе нарыхтоўвацца сельскагаспадарчая і дзікарослая сыравіна, наладжана эфектыўнае захоўванне і перапрацоўка яе на аснове найноўшых тэхналогій. Прадугледжваецца, што высокая канкурэнтаздольнасць прадукцыі і камерцыйны вопыт італьянскіх партнёраў забяспечаць «Яліне» выхад на сусветны рынак і валютную самастойнасць. У бліжэйшых планах савецка-італьянскай фірмы — будаўніцтва кансервавых цэхаў, прадпрыемстваў грамадскага харчавання, магазінаў.

*Памесны сабор 1945 года прыняў палажэнне аб кіраванні Рускай праваслаўнай царквой, дзе было сказана, што настаяцель царквы з'яўляецца па пасадзе старшынёй прыходскага савета. У 1961 годзе раптам успомнілі, што палажэнне аб рэлігійных аб'яднаннях 1929 года не адменена. Тады свяшчэннаслужыцелі былі пазбаўлены выбарчых правоў, яны не мелі права ўваходзіць у царкоўную «двацатку» і быць у царкоўным савеце. Уся фінансава-гаспадарчая дзейнасць перадавалася ў рукі недухоўных. У шэрагу епархій гэты працэс праходзіў нармальна і выбарны пачатак прысутнічаў. Але ў цэлым шэрагу абласцей, на жаль, райвыканкомы назначалі старастаў, якія былі людзьмі нецаркоўнымі, далёкімі ад царквы. Яны выконвалі волю ўпаўнаважаных Савета па справах рэлігій. Свяшчэннікі пратэставалі, але былі бездапаможнымі. Толькі ўявіце: з імі заключаўся працоўны дагавор, што само па сабе супярэчыць нашым кананічным нормам. Свяшчэнніка наймаюць для ажыццяўлення богаслужэння! Розуму недаступна!*

*І вось гэтыя чужыя царкве людзі проста часта ўказвалі, у які дзень служыць, а ў які не. У многіх храмах назначаліся па некалькі разоў на тыдзень санітарныя дні, каб скараціць богаслужэнне...*

*Пры райвыканкомах былі створаны камісіі па выкананню заканадаўства. Яны ўмешваліся ў жыццё царквы і іншы раз нават рабіліся гаспадарамі прыходскага жыцця.*

*А большасць даходаў царквы ішло ў Савецкі фонд міру, за што старасты атрымлівалі медалі фонду. Са свяшчэннаслужыцелямі, якія спрабавалі супраціўляцца, касавалі так званыя працоўныя дагаворы.*

*Цяпер справа мяняецца да лепшага. Але ўсё роўна засталіся прыходы, дзе свае месцы пакуль не ўступаюць НАЗНАЧАНЫЯ старасты, якія пусцілі ў царкоўнае асяроддзе глыбокія карані.*

*Быў час, калі нас вельмі рэзка крытыкавала Руская замежная царква і ў цэлым заходні свет. Нас абвінавачвалі ў здрадзе інтарэсам царквы. Па абавязку архірэйскага сумлення я павінен сказаць, што нават у самыя цяжкія часы мы стараліся максімальна выкарыстоўваць тыя магчымасці, якія мелі. І мы ніколі не былі здраднікамі царквы! Мы разумелі, што наша царква павінна знайсці сваё месца ў савецкім грамадстве. На нас іншы раз глядзелі, як на людзей другога сорта. Але мы тым не менш не кідалі сваю Радзіму, ні адзін свяшчэннаслужыцель не стаў здраднікам. Мы заўсёды былі патрыётамі сваёй краіны і неслі той крыж, які выпаў на нашу долю.*

*Лёгка прадстаўнікам Рускай замежнай царквы крытыкаваць, калі яны там у сябе знаходзіліся ў бяспецы, пакінуўшы Радзіму ў цяжкія для яе гады рэвалюцыі і сталіншчыны. У нас былі магчымасці праводзіць богаслужэнні, няхай і абмежаваныя рамкамі царкоўных сцен. Але мы нязменна прапаведавалі слова Божае, адпявалі, хрысцілі, вянчалі. У час хрышчэння бывалі цяжкасці — неабходна згода і прысутнасць бацькоў, іх асабістыя подпісы. Гэтыя звесткі неадкладна паступалі ў райвыканкомы ад тых самых «недухоўных», што былі далёкія ад царквы. Потым да царкоўнага служыцеля прыходзілі людзі і заяўлялі, скажам, такое: «Мы ў вас вянчаліся, а вы нам здрадзілі...» Вось кім нас выстаўлялі часам у вачах веруючых.*

*(З інтэрв'ю Свяцейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі АЛЕКСІЯ ДРУГОГА газеце «Известия»).*

«ПАЛЕССЕ-І»



На мільёны рублёў тавараў народнага спажывання ў дадатак да сваёй асноўнай прадукцыі выпускае Гомельскі завод радыётэхналагічнага аснашчэння. Вельмі папулярныя ў аўтааматараў унутрысалонныя люстэркі задняга агляду «Палессе-І» з электроннымі гадзіннікамі светлавой індыкацыі і гукавым сігналам на загадзя пастаўлены час, якія вырабляюцца тут.
НА ЗДЫМКУ: за работай зборшчыца аўталюстэркаў «Палессе-І» Надзея ВОЛКАВА.

ВЫСТАЎКА

## ТЭХНІКА І ІНСТРУМЕНТЫ ДЛЯ БУДАЎНІКОЎ



**Нядаўна ў Мінску завяршылася міжнародная спецыялізаваная выстаўка «Тэхнічныя сродкі абсталявання рабочых месцаў у будаўніцтве». Арганізавана яна была Усесаюзным аб'яднаннем «Экспацэнтр» Гандлёва-прамысловай палаты СССР, Дзяржкамітэтам БССР па справах будаўніцтва і Гандлёва-прамысловай палатай Беларускай ССР. Наш карэспандэнт Яўген ТУРАЙКЕВІЧ гутарыў з арганізатарамі і ўдзельнікамі выстаўкі і папрасіў некаторых з іх пракаменціраваць гэта мерапрыемства.**

**Уладзімір ЛЯСУН, дырэктар Гандлёва-прамысловай палаты БССР.**

—Гэта ўжо другая па ліку выстаўка такой спецыялізацыі. Першая адбылася ў 1979 годзе. Тады ў Мінск свае экспанаты прывезлі 50 фірм з 10 краін. Выстаўка садзейнічала наладжванню і развіццю прамыслова-эканамічных сувязей паміж беларускімі і замежнымі будаўнічымі арганізацыямі.

Так, у супрацоўніцтве з аўстрыйскай фірмай «Фёст Альпіне» пабудаваны «пад ключ» металургічны завод у горадзе Жлобіне, з італьянскай фірмай «Когала» — гарбарны завод у Гатаве, сумесна з французскай фірмай «СЕКА С. А.» ствараем бітумныя масцікі.

Але з кожным годам фронт будаўнічых работ у нашай рэспубліцы расшыраецца. Асвойваецца звыш 5 мільярдаў рублёў капітальных укладанняў і выконваецца будаўніча-мантажных работ больш чым на 3 мільярды рублёў. Для ўсяго гэтага патрэбна магутная база. Менавіта ўмацаванню яе, стварэнню сумесных прадпрыемстваў, заключэнню кантрактаў на пастаўку ў СССР тэхнікі і інструменту і павінна была садзейнічаць выстаўка «Мехпрацбуд-90».

Хачу звярнуць увагу на адзін нюанс. Сёлета ў Мінск прыехала менш фірм, чым у 1979 годзе. Якая прычына? Крызіс нашай эканомікі нарадзіў недавер замежных фірм да савецкіх заказчыкаў з-за адсутнасці валюты? Прадаставім слова тым, хто сёння прыехаў да нас.

**Тон ОЛІВЕР, рэгіянальны менеджэр англійскай фірмы «Джэй Сі Бі».**

— У Беларусь мы прывезлі міні-пагрузчыкі, міні-экскаватары і іншую будаўнічую тэхніку.

На выстаўку ў Мінск мы спазніліся. Затрымаліся ў Кіеве. Неяк нязвыкла было бачыць, што нашу экспазіцыю тут, у Беларусі, наведвала штодзень мала спецыялістаў-будаўнікоў. Мусіць, асноўны наплыў гэтых дзелавых людзей прыйшоўся на час адкрыцця выстаўкі. Але дамоў мы паедзем без экспанатаў: знайшоўся пакупнік з Растова, які набыў у нас ўсё. Лічу, што продаж для нас выгадны.

**Мар'ян ШЫМАНЬСКІ, галоўны спецыяліст па справах тэхнічнага абслугоўвання прадстаўніцтва польскай фірмы «Бумар».**

— Наша фірма — даўні гандлёвы партнёр Савецкага Саюза. Штогод мы пастаўляем гідраўлічныя экскаватары, тынковачныя і малярныя агрэгаты і іншую будаўнічую тэхніку прыкладна на 150 мільёнаў рублёў. Удзельнічаем у выстаўках, якія праходзяць у Беларусі, не першы раз. Беларускія будаўнікі і цяпер зацікавіліся нашымі экспанатамі. Магчыма, прададзім тут не ўсё, але ўдзелам у выстаўцы задаволены, заключылі шэраг выгадных кантрактаў. Вялікую цікавасць у Мінску выклікаў польскі мініэкскаватар. Гэта новы экспанат.

**Кары ВІКМАН, адказны па збыту шведскай фірмы «Партнёр».**

— Мы ў Мінск прыехалі не толькі, каб прадаць свае інструменты, што прымяняюцца ў будаўніцтве. Нас больш цікавіць стварэнне сумеснага прадпрыемства ці наладжванне сумеснага рабочага кантакта з шэрагам заводаў Беларусі. Напрыклад, з Маладзечанскім заводам парашковай металургіі. Пакуль рана гаварыць, што мы дасягнулі сваёй мэты. Тут патрэбны час. Але спадзяёмся, што ўдзельнічалі ў выстаўцы не дарэмна.

**На мінулай выстаўцы былі закуплены ўсе экспанаты. Цяпер жа многае паехала за мяжу разам з прадстаўнікамі фірм. Але гэта зусім не азначае, што не знайшлося пакупнікоў ці валюты. Далёка не ўсе экспанаты тут прадаваліся, яны адпраўляліся на іншыя выстаўкі. Ды калі і ёсць выбар (а ён у Мінску быў!), то спецыялістам-будаўнікам і сапраўды патрэбны час, каб прыкінуць, якую тэхніку набыць. Ніхто цяпер не хоча набываць нават замежнае першакласнае абсталяванне, калі ў яго не будзе пэўнага фронта работ.**

НА ЗДЫМКУ: экспазіцыя польскай фірмы «Бумар».

*МАСЕЙ СЯДНЁЎ У РЭДАКЦЫІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»*

# ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ

Да нядаўняга часу тут, у Беларусі, Масея Сяднёва ведалі толькі тыя з інтэлігенцыі 20—30-х гадоў, з кім разам ён, малады, засяваў палеткі нашай літаратуры, жыў абуджэннем краю і адраджэннем нацыі, з кім разам сядзеў па турмах, абвінавачаны ў «нацдэмаўшчыне», быў на выгнанні. Літаральна год-два назад імя Масея Сяднёва прамільгнула на старонках нашага друку, і з яго вершамі пазнаёмілася сучаснае пакаленне беларусаў, даведалася пра яго трагічны лёс. Ну, а суайчыннікам, якія жывуць за межамі нашай дзяржавы, пра Масея Сяднёва не трэба згадваць — там яго ведаюць лепш, чым у нас. Вайна закінула яго на Захад, цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Уявіць сабе, што Масей Сяднёў, былы кіраўнік беларускай секцыі радыё «Свабода», пераступіць парог рэдакцыі «Голасу Радзімы», было зусім немагчыма. І вось мы сядзім адзін насупраць другога, вочы ў вочы, і разбураем цаглінa за цаглінай сцяну падазронасці і недаверу, намацваем звычайныя людскія кантакты. Побач з намі Васіль Хомчанка, для мяне — вядомы пісьменнік, былы франтавік, афіцэр Савецкай Арміі. Для Масея Сяднёва — зямляк і аднакамернік ці што: разам былі рэпрэсіраваны, разам сядзелі за кратамі. Уласна, па яго запрашэнню і прыехаў Масей Сяднёў у Мінск.

Перада мной два чалавекі, якія дзесяткі гадоў былі па розныя бакі барыкады, як прынята было гаварыць раней. Хачу зразумець сітуацыю. Як усё складана і як проста ў гэтым жыцці!..

— Мяне вельмі цешыць, што вы прыйшлі, бо не было пэўнасці — ці рашыцеся, ці асмеліцеся? І першае маё пытанне, гатовае сарвацца з языка: вас не дзівіць, што вы ў «Голасе Радзімы»? Даруйце, што пачынаю недыпламатычна, але давайце без дыпламатыі.

— Дзівіць... Ніколі не спадзяваўся, што я калі-небудзь змагу наведаць гэту рэдакцыю...

— Нават у страшным сне не бачылі?

— Нават і ў сне гэтага я не дапушчаў. Але мяняюцца часы, мяняецца палітыка да эмігрантаў. Ёсць ужо спробы з вашага боку наладзіць нейкае дачыненне з эмігрантамі, супрацоўніцтва, і гэта цешыць. Дасюль жа «Голас Радзімы» крытыкаваў нас, лічыў многіх з нас ворагамі нават, калабарантамі і г. д.

— Ці думалі вы, што зноў калі-небудзь будзеце на Радзіме, будзеце хадзіць па Мінску? Ездзіць у родныя мясціны?

— Не-не, ніколі не думаў, што мне давядзецца наведаць бацькаўшчыну, а тым больш, выбачайце, вашу рэдакцыю. І, прызнаюся, я не з лёгкай душой ехаў сюды. Я быў не свабодны ад думкі, што мяне могуць сустрэць і інакш тут. Прынамсі, тая ці іншая арганізацыя, установа, але, дзякаваць богу, як дасюль, дык ішло добра. Неспадзявана добра я тут быў сустрэты, і асабліва пісьменнікамі, вельмі задаволены сваім вечарам у Доме літаратара. Меў, як кажуць, поспех. Вельмі прыемна было пазнаёміцца з Нілам Гілевічам, Янкам Брылём, іншымі пісьменнікамі. Там, на вечары, я сустрэў людзей, з якімі раней быў знаёмы, яшчэ ў 30-я гады, да арышту, калі я студэнтам быў. Вельмі я быў узрушаны гэтым усім і рады.

— Масей Ларыёнавіч, сорак пяць гадоў, калі не больш, за межамі бацькаўшчыны...

— Больш, бо лічыце з 1936 года...

— За гэты час можна было забыць усё — сваю мову, свой народ, асімілявацца на ўсе сто працэнтаў. Вы не забыліся нічога, нават дзіўна, што не завялі як паэт на чужой глебе.

— Ні сваю бацькаўшчыну, ні сваю родную мову я не забыў, я імі жыў. Мова гэта была для мяне ратункам, не толькі таму, што я пісаў на ёй, складаў свае вершы, але і ў сэнсе наогул духоўным. Мая мова, мае вершы — гэта можа найлепшы мой спадарожнік. І канешне ж тое, што называецца настальгіяй, або тугой, — гэта так як лек, хоць настальгія з'ядае можа душу, але яна і лечыць. І ў творчым дачыненні гэта настальгія, у прыватнасці ў мяне. да некаторай ступені была нават нейкім стымулам. Калі праглядзець мае вершы, то вы ў іх знойдзеце нямала таго, што называецца Бацькаўшчынай.



— У вас выдадзена там, за мяжой, здаецца, шэсць ці сем кніжак?

— Так. Адна выйшла па-руску: вершы.

— І зараз вы таксама пішаце вершы. І добрыя вершы. Нешта з вашай паэзіі мне даводзілася чытаць.

— Калі я пайш[illegible] на пенсію, дык упершыню за сваё жыццё я зрабіўся нібы прафесійным літаратарам. У тым сэнсе, што я стала аддаваў сябе творчасці і за гэтыя сем год выдаў чатыры кніжкі. І [illegible]спрабаваў сябе ў такім жа[illegible] як проза. Напісаў два раманы: «Корзюк» і другі раман — «І той дзень надышоў». Гэта тэма, як органы энкавэдэ ў 30-х гадах імкнуліся стварыць міфічную нацыяналістычную арганізацыю на Беларусі. Дык вось раман «Корзюк» пра тое, як гэта ўсё адбывалася. А «І надышоў той дзень» — пра лёс чалавека, асобы, якая апынулася паміж дзвюма сіламі — партызанамі і немцамі.

— У гэтым ёсць нешта аўтабіяграфічнае?

— Канешне. Раман «І той дзень надышоў» будзе ўключаны ў маю кнігу, якую збіраюцца выдаць у Мінску, зборнік такі, куды ўключаны выбраныя вершы і вось гэтая проза. Тут хіба выйдзе нешта ў «Немане», з рэдактарам я сустракаўся, ён хоча надрукаваць там мой раман, скарочаную версію. Ну і хочуць нібы яго выдаць у Маскве на рускай мове...

— Бачыце, якія ў вас цяпер магчымасці адкрываюцца...

— Ну, у вас жа цяпер такая палітыка: вярнуць усё, што мае нейкую вартасць, вярнуць літаратараў у літаратуру. Так што гэта пазітыўны бок справы.

— Думаю, што гэта карысна і для нас, і для вас. Для вас, таму што такое прызнанне напэўна саграе вашу душу, надае высокі сэнс таму, чаму прысвечаны праца і жыццё, а для нас — мы не губляем тое, што маглі згубіць назаўсёды. Не вырашаемся таго, што мае каштоўнасць для беларускай культуры, што можа скласці хаця б драбінку нацыянальнага багацця.

— Няма, на жаль, у нас свайго выдавецтва, сваёй друкарні. Мы ў суседзяў друкуем, ва ўкраінцаў, у прыватнасці. Але, трэба сказаць, ёсць і свой друкар, такі Прускі, ён працуе ў Клійлендзе. У яго ёсць свая друкарня. Нямала кніжак выдаў, у прыватнасці, «Запісы» Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Яны апошнімі гадамі друкуюцца менавіта там, у яго друкарні. Што датычыцца мяне, то я ўсе свае кніжкі выдаваў на ўласны кошт.

— Вы ўжо многа тут бачылі, з многімі сустракаліся, пра многае даведаліся. Убачылі наша жыццё такім, якое яно ёсць. Цяпер у нас на кожным кроку пачуеце гамонку пра стан духоўнасці грамадства, адраджэнне. Якім вам бачыцца ўзровень нашага духоўнага стану сёння?

— У вас апошнімі часамі загаварылі пра гэтую духоўнасць. І гэта добра, але ж духоўнасць гэтую не ўсталіш адразу. Тым больш, што духоўнасць была, я б сказаў, прыгнечанай, гэтую духоўнасць цяжка было праявіць. Ці я заўважаю яе? Не так лёгка яе і заўважыць, таму што больш чым паўстагоддзя бездухоўнасці... Але добра тое, што якраз да яе паварот. Гэта ж можна заўважыць і па паводзінах людзей на вуліцах, у трамваях, як людзі абыходзяцца, як яны паводзяць сябе...

— Калі выходзіць з паводзін людзей на вуліцы, у сям'і, то мне здаецца, што мы знаходзімся на самым нізкім узроўні гэтай духоўнасці... Пра гэта цяпер вы знойдзеце многа разважанняў у нашай прэсе.

— Я не адважуся гэта вымавіць, хачу быць далікатным, ветлівым.

— Але ж мы з вамі дамовіліся: гаварыць без дыпламатыі!

— Скажам, тая ж духоўнасць перш за ўсё звязана з паваротам да рэлігіі. Гэта важны момант. Але зноў жа — рэлігія вынішчалася гэтулькі часу, што наладзіць рэлігійнае жыццё не так лёгка. Ды й людзі выхаваны зусім у іншым напрамку, і гэта людзей сапсавала. Нават адносіны да працы іншыя, а гэта ж таксама духоўнасць. Я не чакаў такога разлажэння. Я проста думаў лепш, выбачайце... Возьмем школу. Мне здаецца, тут усё яшчэ застаецца па-старому. Яна не перабудавалася. Ніякіх змен няма.

Вось, скажам, я ездзіў у Касцюковічы пабачыць сястру і брата, у тую чарнобыльскую зону. Па дарозе туды і назад мне кідаліся ў вочы лозунгі. Яны сёння абсалютна не адпавядаюць. Занадта многа таго сярпа і молата, выбачайце, зашмат Леніна. Проста гэта нават антыэстэтычна. Нельга ўпрыгожваць які-небудзь плот сярпом і молатам або Леніным. Гэта пачварна!

— Гэта наша «застойная» хвароба. Напрыклад, што робіць будаўнікі? Абносяць плотам будоўлю і прыбіваюць на ім лозунг, што яны выканаюць рашэнні чарговага з'езда. А самі робяць абы як — брак на кожным кроку.

— Гэта мая паездка ў правінцыю мне шмат дала, я шмат пабачыў. На жаль, маё Мокрае ўжо адсяляецца, амаль пустое, там зона павышанай радыяцыі. Я туды і не змог даехаць. Мая сястра ў самых Касцюковічах. Я не чакаў такога прымітывізму ў быце. Праязджаеш праз вёску, пустую ўжо, выселеную, бачыш там — дзе-небудзь сядзяць старыя мужчыны ці жанчыны. Пуста ўсё, хаціны тыя яшчэ амаль што дарэвалюцыйныя, скошаныя. Гэта робіць такое моцнае ўражанне. Глядзіш і думаеш: шкада людзей! Добрыя людзі, залатыя людзі, але яны не маюць ніякага... што там камфорту! — самых неабходных рэчаў не маюць. Як цяжка жыць! Але што страшна: гэтыя людзі ўжо як бы звыкліся, і ёсць такая наканаванасць, пакорнасць лёсу. Страшна і тое, што ў гэтых забруджаных месцах яшчэ нешта будуецца. Напрыклад, цэментны завод у Касцюковічах. Няма каму працаваць там. Бяруць гэтых крымiналістаў, ці што, ну, асуджаных, дачасна іх выпускаюць, але адтуль яны ўцякаюць.

Я многа прыглядаўся да людзей: людзі як людзі. І што кідаецца ў вочы — цярпенне і ўсепрашчэнне беларусаў.

— Як вам бачыцца наша самая, можа, балючая, пасля чарнобыльскай трагедыі, праблема: ці стануць беларусы беларусамі? Ці загавораць яны, нарэш[illegible]ча сваёй мове?

— [illegible]ам увесь час думаю над гэтым. І там жывучы, я бачыў гэтую праблему. Я не памыляўся, нават спрачаўся з некаторымі сваімі суродзічамі, якія хацелі б, каб тут было леп[illegible] верылі ў тое, што яно так [illegible]ць, што на Беларусі з мовай не так ужо драматычна. Дык я не меў на гэты конт ніякіх ілюзіяў. Вось прыехаў і пераканаўся яшчэ раз у гэтым. Толькі мне стала больш сумна, што беларусы не ўсведамляюць гэтага: гавораць на несваёй усё ж мове. Як бы ён ні імкнуўся, усё ж такі ён застаецца беларусам, яго пазнаюць усюды, адразу гэта відаць па ягонай мове. І што б ты ні рабіў, ты застаешся беларусам. Ты не можаш змяніць сваёй крыві, дык чаму ж ты адмаўляешся ад сваёй мовы?! І я, прызнацца вам, песімістычна гляджу на гэту рэч. Добра, што беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай, але, мне здаецца, на гэтым як бы і сцішыліся. Я баюся гэтага зацішша. Спатрэбяцца вялікія высілкі, каб вярнуць беларуса да сваіх карэнняў, да сваёй мовы. І я думаю, што не будзе нічога, пакуль не возьмецца сам урад, партыя, пакуль самі не загавораць па-беларуску. І не перавядуць перш за ўсё школы на беларускую мову. Скажам так: патрэбна другая беларусізацыя. Гэта будзе можа не лягчэй, чым у 20-х гадах. Я хацеў бы быць настроеным аптымістычна, але няма падстаў. Песімізм не лепшы падыход, я разумею, але ж трэба глядзець праўдзе ў вочы...

Вось зноў жа пра тую духоўнасць: яна выхалашчана, бо беларус пазбаўлены сваёй мовы. Адзіная надзея на моладзь. Усякая справа пачынаецца з актывістаў, гэта тая сіла, тыя патрыёты, якім бы я хацеў прарочыць добрую будучыню. Гэта працэс доўгі, марудны і балючы, бо шмат хто ўжо выракся сваёй як бы назаўсёды.

...Учора цікавая сустрэча была з моладдзю, у «Чырвонай змене». Надзвычайна! Энтузіясты, патрыёты беларускія. Проста я там ажыў. Паслухалі мы аўтараў аб'яднання «Крыніца», паэтаў. Нам праспявалі некалькі патрыятычных песняў. Я быў так расчулены. Так што тут у вас ёсць свае Данчыкі.

— Вы засталі 20—30-я гады, напэўна, лепшы час у станаўленні беларускай нацыі. Уявім сабе, што гэтыя гады не былі б зламаны, скалечаны сталіншчынай, што не быў бы патушаны духоўны агонь маладой беларускай інтэлігенцыі. Якой вы маглі б сёння застаць нашу рэспубліку?

— Канешне, не ў такім стане, як сёння. Я думаю, што калі б працягвалася беларусізацыя, дык Менск даўно гаварыў бы па-беларуску. І літаратура наша была б іншай — яна была б літаратурай нацыянальнай. Бо пытанне ёсць: ці маем мы нацыянальную беларускую літаратуру? Яна ёсць на беларускай мове, але ці яна сапраўды нацыянальная?

— Наконт гэтага з вамі можна, відаць, паспрачацца. Проста літаратура ў Беларусі адрозніваецца ад літаратуры эміграцкай сваім светапоглядам... Дарэчы, вы лепш, чым я, ведаеце інтэлектуальны патэнцыял нашай эміграцыі. Асабіста я той думкі, што ён невялікі, бо наша эміграцкая інтэлігенцыя колькасна невялікая. Як вы думаеце, які ўплыў можа аказаць беларуская замежная інтэлігенцыя на працэсы адраджэння ў Беларусі?

— Гэты, як вы кажаце, інтэлектуальны патэнцыял беларусаў за мяжою, — ён можа ўплываць перш за ўсё, як мне здаецца, праз літаратуру. Гэта тое, што пакінула беларуская эміграцыя перш за ўсё. Другое, па лініі навуковай. Там існуе Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ён да гэтага часу выдаў больш дзесятка кніжак «Запісаў». У гэтых «Запісах» вы знойдзеце рэчы, якія трактуюць беларускую праблематыку — гісторыю, дзяржаўнасць. Вядома, дзяржаўнасць як ідэя БНР. Эмігранты як бы хацелі стварыць нейкую ідэальную бацькаўшчыну, якой яны пазбаўлены. Яны тварылі і твораць гэтую бацькаўшчыну за мяжою. Побач з навукай ёсць і публіцыстыка, якая абслугоўвае ідэю гэтай дзяржаўнай незалежнасці.

— Кажуць, збоку лепей відаць. Як вам паказалася тое, пра што гавораць ва ўсім свеце, — перабудова? Чаго мы маем чакаць ад яе?

— Перабудова ў Беларусі, мне здаецца, мала чаго закранула. Ёсць такое адчуванне ў мяне, што антыперабудоўчыя сілы могуць перамагчы вас. Але трэба жыць усё ж такі надзеяй, і не толькі надзеяй, а і працаваць. І вось вы працуеце, перабудоваліся, як мне здаецца, карэнным чынам ваша арганізацыя, ваша газета. Але ўсё яшчэ ў эмігрантаў ёсць пэўны недавер да вашага таварыства ў цэласці і да газеты ў прыватнасці. Адлігі пакуль няма. Гэта зразумела. У эмігранта нават такое падазрэнне чыста псіхалагічнага плана. Напрыклад, «Радзіма» ён бы хацеў змяніць на «Бацькаўшчыну». Радзіма ў яго асацыіруецца з «Родиной».

— Беларускай эміграцыі ўсё яшчэ здаецца, што намі кіруе Масква? Вядома, гэта комплекс, ад якога не проста пазбыцца.

— Добра было б, каб «Радзіма» стала ініцыятарам сусветнай арганізацыі беларусаў.

— Што вы напішаце, калі вернецеся з Беларусі?

— Я не ведаю, што напішу, я думаю, што эмігранты зацікавяцца маёй паездкай, падарожжам на Бацькаўшчыну, і я ахвотна падзялюся сваімі ўражаннямі і сустрэчай з вамі, а што я напішу, гэта мне цяпер яшчэ цяжка сказаць.

— Шчаслівага вяртання і новых сустрэч з Бацькаўшчынай.

**Гутарку вёў Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

